Opłata pocztową uiszczono ryczałtem.

# СЯЛЯНСКАЯ ПРАЎДА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй. **Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 30. Вільня, Нядзеля, 7-га сьнежня 1924 г. Год I.

## Сымвалічная забастоўка.

Забастоўка фабрычных работнікаў у галоўным цэнтры польскае прамысловасьці, Лодзі, з кожным днём прыймае шырэйшыя разьмеры. Але справа ня ў тым, што да забаставаўшых работнікаў далучаюцца ўсё новыя і новыя фабрыкі і прадпрыемствы: справа ў тэй *прычыне*; якая выклікала забастоўку і не дае магчымасьці зьліквідаваць яе.

Усім ведама, што ў Польшчы дарагоўля расьце з кожным днём. Тут непатрэбны і аблічэньні ўрадавых статыстыкаў: гэта-ж кожын адчувае найлепш на сабе самым. Але найбольш адчуваюць тыя, хто найменш зарабляе: гэта—людзі фізычнае працы, фабрычныя работнікі. І пад той час, як урадоўцы з кожным месяцам дастаюць хоць невялічкі дадатак на дарагоўлю, плата работнікам не расьце, а, наадварот, яшчэ зьмяншаецца ў сувязі з павялічэньнем дня працы.

Калі ўрад дазволіў прамыслоўцам на Горным Сьлёнску павялічыць дзень працы з 8 да 10 гадзін, дык гэта тлумачылася агульнадзяржаўнай патрэбай. Гаварылася аб тым, што тады патаньнее вугальле, якое ўжываюць усе вялікія фабрыкі, — і ўсё пойдзе таньнець....

Нічога падобнага ня сталася. Наадварот, усё далей даражэе і даражэе, і фабрычныя работнікі, і дагэтуль зарабляўшыя адно толькі на поўгалоднае жыцьцё, дайшлі да такога палажэньня, што кінулі работу і заявілі публічна: *non possumus — больш ня можам*!

І яны маюць слушнасьць. Але вось, паглядзім на другую старану — на фабрыкантаў і прамыслоўцаў, якія ў Лодзі катэгарычна адмовіліся нават весьці якія-колечы перагаворы з работнікамі, калі тыя будуць дамагацца вялікшае платы. І яны заяўляюць гэтак сама: non possumus! Сваё непрымірымае становішча яны тлумачаць тым, што джяржава спаганяе з іх такія падаткі, якіх яны ня ў сілах выплаціць пры сучасных варунках. У самай Польшчы народ — асабліва сялянства — так згалеўшы, што ўнутраны рынак бярэ вельмі мала тавараў. А заграрічныя рынкі для Польшчы зачынены: Захаду польскія вырабы непатрэбны, бо ў яго ёсьць свае і... шмат таньнейшыя! Усход не бярэ іх, бо туды ўжо праніклі таньнейшыя тавары нямецкія, англійскія, французкія... Запасных грошы, каб ператрываць крызіс, у Польшчы няма, дый крэдыт страшэнна дарагі. І, здаецца, фабрыканты таксама, як работнікі, на свой спосаб маюць слушнасьць, заяўляючы, што плаціць работнікам балей яны ня могуць.

Вос ён — *эканамічны крызіс*, з якога ня відаць выхаду: работнікі ня могуць працаваць за старую плату, бо за яе немагчыма прахарчавацца; фабрыканты ня могуць плаціць балей, бо ім не аплоціцца вясьці свае прадпрыемствы, як бездаходныя, даходы з якіх узяла дзяржава.

А тым часам дзяржава прадаўжае „расьці“, як „вялікае мацарства“. Дзяржава хоча іграць сусьветную ролю, хоча ўдзяржаць тыя землі, якія заваяваны ў суседзяў. Хоча будаваць ваенныя паветраныя і марскія флёты, ды ваенныя порты, хоча дзяржаць вялізарную армію—войска, дый яшчэ другую армію паліцэйскіх і ўрадоўцаў, якія канешна патрэбны пры сучаснай унутранай палітыцы Польшчы... На ўсё гэта патрэбны грошы, грошы, грошы. І тых „вольных“, ці „лішніх“ злотых, якія п. Грабскі хоча выпампаваць з кішанёў грамадзян, на ўсё гэта ўжо не хватае.

Дзе выхад з гэткага палажэньня? Кажуць аб замежнай пазыцы. Але яе ніхто не дае. І вось Польшча пападае ў тупік, з якога выхаду ня відаць.

Лодзкая забастоўка—гэта, запраўды, *сымвалічная забастоўка*. І з яе *выхаду — таксама ня відаць!*

## „Санацыя Крэсаў“.

(Глядзі № 29 „Сялянскае Праўды“).

### 2. „Санацыя ліха“—у бюджэце 1925 г.

Даўно сцьверджана, што запраўды характар і вартасьць чалавека вызначаецца ня ў тым, што ён кажа, але ў тым, што ён робіць, на што ён траціць час, энэргію, працу і—**на што выдае запрацаваныя грошы.**—Чалавека, коратка кажучы, найляпей характарызуе тое, што трэба-б назваць у агульным, усёахопліваючым сенсе — **яго асабістай гаспадаркай,**—яго асабістым **бюджэтам.**

Як раз тое самае трэба сказаць і аб кожнай „дзяржаўнай асобе“. Найбольш праўдзівай—**рэальнай**—характарыстыкай **гаспадарства** зьяўляецца яго агульная **гаспадарка**, якая ў сучасных канстытуцыйных дзяржавах рэгулюецца апрацоўваным урадам і зацьверджаным народным прадстаўніцтвам, як закон—сьметамі даходаў і выдаткаў на год уперад—**бюджэтам.**

Дык вось гэты бюджэт, у якім сказана, **што** мае спагнаць з Краю і на што мае выдаць для Краю яго дзяржаўная ўлада, найляпей азначае дзяржаўны, гаспадарствены характар краю, — паскольку, зразумела, яго насяленьне правільна прадстаўлена яго ўрадам і яго парлямантам, якія і ўкладаюць—ад імя ўсяго народу—бюджэт.

Мы бачым, на сколькі ня рэальнымі, не адпавядаючымі запраўднаму характару дзяржавы, зьяўляюцца розныя „вялікадушныя“ заявы розных прадстаўнікоў дзяржаўнай улады — на ўнутраным ці на міжнародавым груньце — аб тых ці іншых палітычных, эканамічных ці культурных „дабрадзействах“ дзяржавы — адносна тых ці іншых групаў насяленьня, якія жаляцца на дазнаваныя ад гэтай улады крыўды,—калі гэтая „велікадушнасьць“ ня мае рэальнага, ці, груба кажучы, **грашовага пацьверджаньня** ў бюджэце.

Калі, напрыклад, польскі міністар п. Скшыньскі ажно кляўся ў Жэневе перад усімі народамі, што беларусы ў Польшчы **ўжо** маюць усё, а нават шмат больш таго, чаго вымагаюць Трактаты, ды калі адначасна ў бюджэце Польшчы выпісаны толькі жорсткія і неўмалімыя лічбы, якія даводзяць, што беларускія „Крэсы“ маюць ужо вялікія, непасільныя падаткі, што выдаткі на паліцыю ў нас прынамся ў **4 разы**, (як сымвалічна падлічыў п. Вэндзягольскі) большыя, чым у „Кароне“, што **фактычна**, на „Крэсах“, толькі „bez szyldu“, (як сцьвярдзіў віцэ-прэм'ер Тугутт) істнуе выняткови стан, калі ў бюджэце, як быкі, стаяць лічбы выдаткаў на **польскую** школу і няма выдаткаў на **беларускую**,—тады, ня кажучы ўжо аб чым іншым, мы можам сказаць зусім пэўна, што тое, што кажа п. міністар Скшыньскі, рысуе толькі яго **асабісты характар**, але зусім не сцьвярджае характару польскае дзяржавы..

Апошні рысуецца толькі яе бюджэтам.

---

Цяпер паглядзім, што-ж „дае“, ці. правільней. рэальна суліць нашым „Крэсам“ новы бюджэт Польшчы на 1925 г.

Перад усім—падзякуем за яго вельмі цікавую і карысную працу п. Рымару, за якім і пералічым усё, што зрабіў урад Грабскага—Тугутта ў сваім бюджэце для „санацыі“ ўсяго таго „Ліха“, аб якім пісалася ў першай часьці нашага артыкулу.

П. Рымар сцьвярджае „вялікае зразуменьне патрэбаў усходн. ваяводзтваў“, выяўленае ўрадам у бюджэце (ўласьціва ў 2-х бюджэтах: „дадатка-вым“ за 1924 г. ўжо прынятым Соймам, і асноўным бюджэце на 1925 г.).

1) П. Рымар на першым мейсцы стаўляе выдаткі на... „арганізаваньне Корпусу Пагранічнікаў“. Шкада, што ён не падае лічбы гэтых выдаткаў.

Але, каб забясьпечыць дабрабыт пагранічнікаў, урад, апрача іншых выдаткаў, асыгнаваў 20 міліёнаў злотых на „будову ўздоўж граніцы 232 „стражніц“ на паўплютону (паўузводу) кожная і 51 „odwodów kompanijnych“ (?) і тэлефоннае сеці...

У выніку гэтай „санацыі“, праведзенай ваенным міністэрствам, **польскі жаўнер** на „Крэсах“ будзе мець зусім добрае памешканьне...

2) „Другая краіна, вельмі занядбаная (на „Крэсах“), гэта—адміністрацыя“, кажа п. Рымар.

„Добры ўрадовец ня йшоў на „Крэсы“ (праўда!), бо ня меў дзе жыць і баяўся „неўрэгуляваных стасункаў“ — папросту—бандытаў.—Цяпер — бандытызм здушыць Корпус пагранічнікаў, паліцыя і войска, а першую прычыну ўхіліць урад — так сама **будаваньнем дамоў для польскіх урадоўцаў** на Крэсах, на што на 1924 „дадаткова“ асыгнавана 5 мільёнаў 400 тысяч злотых, а на 1925 г. — 7 міл. 225 тысяч злотых. За гэтыя грошы ўрад збудуе да канца 1925 году—256 выгадных дамоў, у якіх знойдуць зусім адпаведныя патрэбам і смаку культурнага паляка памешканьні **„добрыя ўрадоўцы“**, якія ўжо тады **ня будуць баяцца** ехаць на „Крэсы“ з усіх іншых „дзяльніц“ Польшчы. „Гэта—ня многа, але ў кожным выпадку нешта“, — слушна кажа п. Рымар...

3) На будову дамоў **для войска** бюджэт таксама ня скупіцца:

## Беларускія школьныя справы.

### Зачыненьне беларускіх пачатковых школ урадовых.

У пачатку сёлетняга школьнага году стараньнямі польскага школьнага інспэктара Сьвянцянскага павету зьліквідаваны дзьве беларускія пачатковыя школы ў Вайстамскай воласьці, Сьвянцянскага павету, у вёсках Ялажычы і Кавалі.

Фармальным бокам да зьліквідаваньня школы ў Ялажычах было нібы тое, што вучыцелька тэй школы Чайкоўская Любоў дрэнна ўладала польскай мовай. Калі-б гэта апошняе і было так, дык мог-бы інспэктарь мець на мейсца тэй вучыцелькі дзесяткі другіх кандыдатаў,—захацеў-бы ён толькі. Але-ж гэтага жаданьня, што да беларускай школы, не магло быць у пана польскага інспэктара; ён кіраваўся тут адзіным жаданьнем—зачыніць беларускую школу. Вучыцельку інспэктар звольніў, новага вучыцеля ня вызначыў, вучыцялі суседніх польскіх школ пазапісывалі дзяцей Ялажыцкай беларускай школы да сябе і прымусілі іх хадзіць да польскіх школаў пад пагрозой штрафаў. Гэткім чынам, „зрэдукавана“ беларуская пачатковая школа ў Ялажычах.

Ня меньш хітры спосаб быў застасаваны да ліквідацыі беларускае школы ў вёсцы Кавалі Войстамскай воласьці. У гэтай вёсцы беларуская школа істнавала з 1921 году і была надта шмат—людная, зьмяшчалася ў вялікім школьным будынку, які збудаваны быў яшчэ да сусьветнае вайны. Працавалі ў гэтай школе вучыцель Сіняк і яго жонка. Абое лічыліся найадпаведнейшымі сіламі пэдагогічнымі.

Раптам, ні з таго, ні з сяго, абедзьве гэтыя вучыцельскія сілы пераводзяцца прыказам польскага інспэктара Сьвянцянскага павету з 1. IX. 24 г. ў польска-літоўскую школу, гдзе-сь каля Глыбокага. На мейсца іх інспэктар прысылае двух *польскіх* вучыцялёў—галілеюшаў, якія ні слова не разумеюць пабеларуску і пачынаюць калечыць беларускіх дзетак, вучачы іх папольску, завёўшы адразу польскія падручнікі. А хто з сялян не пасылае дзяцей у польскую навуку, — на таго зараз-жа штраф.

Гэтак, адным махам пяра польскага інспэктара, пераpоблена беларуская школа на польскую.

Выходзіць, што лёс беларускае ўрадавае школы і беларускага вучыцеля ў ёй цалком знаходзяцца ў руках самаўладнага польскаго інспэктара. Калі беларускі вучыцель дрэнна ўладае польскай мовай, — ён звальняецца і школа закрываецца; калі-ж ён добра ўладае польскай мовай, дык ён пераводзіцца ў польскую школу, а да прывязаных да яго беларускіх дзяцей прысылаецца польскі вучыцель, які штрафамі на апорных сялян ліквідуе беларускую школу.

Адным словам, куды ня кінь — усюды клін,

**М.**

III Корпус (Горадня—Вільня) атрымае на гэтую мэту 2 міл. 45 тыс. злотых;

IX Корпус (Бярэсьце)—1 міл. 305 тыс. зл.;

II Корп. (Любляны)—1 міл. 563 тыс. зл.!

VI Корпус (Львоў)—961 тысяч.

— Ня лічучы ў гэтым 5,085,950 зл. на фортыфікацыйныя работы...

4) Мы ведаем, якую вагу мае для „санацыі крэсавых адносінаў“—т. зв. „прэсьціж“ — павага ўлады,—пашана да яе... Ведаем таксама, як патрэбна дзеля гэтай пашаны некаторае вонкавае выражэньне сілы і павагі ўлады. Дык, ня кажучы ўжо аб бясспрэчна патрэбным для польскіх ураdoўцаў на „Крэсах“ камфорце ў іх прыватных кватэрах,—ня менш важна адпаведная рэпрэзэнтацыя Польскай Рэчыпаспалітай на „Крэсах“: **Урадовыя гмахі**, а перад усім **гмахі вояводзкія**!

Вось, міністэрства ўнутр. спраў і пастанавіла (ў бюджэце) адрамантаваць ваяводзкія гмахі ў Беластоку, у Слоніме, у Вільні, а таксама—гмахі староствау у Вільні, Глыбокім і Сьнятыні. Міністэрства скарбу скончыць будову палацаў у Бярэсьці і Любляне, а таксама будынкі ў Бельску, Вялейцы, Влодаве, Любартове і Любліне.

Віленская дырэкцыя атрымае грошы на будову 3 гмахаў мытнага ўраду, Львоўская на—13; апрача таго, дзеля гэтага будуць пабудаваны 27 дамоў у розных местах.

5) Генаральная Дырэкцыя Пошт і Тэлеграфаў мае выдаць на будову і рамонт паштовых гмахаў у 2 „Крэсавых“ дырэкцыях — каля 190.000 зл., апрача 368.436 зл. на новыя тэлефонныя лініі (для ўрадоўцаў і паліцыі?).

6) Міністэрства рэлігіяў і асьветы мае выдаць, як падмогу на будову касьцёлаў і капліцаў—716.000 зл.; на пачацьце будовы гмаху для п. куратара і яго ўраду ў Роўне—50.000 зл.; на перарабку гмаху куратарыуму ў Вільні—100.000 зл.; на будову вучыцельскай сэмінарыі (**польскай!**) у Нясьвіжы—300.000 зл.

„Розныя сумы (?) асыгнаваны на рамонт гмахаў сэмінарыяў (ў нас—**толькі польскіх**, бо беларускіх няма!) у Халме, Лясной, Замосьці, Беластоку, Горадні, Сьвіслачы, Ваўкавыску, Шчучыне, Слоніме, Барунах (дзе **была** беларуская!), Н. Троках і Астрогу.

400.000 злотых—на далейшую будову гімназіі (**польскай!**) у Беластоку; 275.000 зл. на рамонт гімназіяў—(так-сама **польскіх**) у Наваградку, Слоніме, Бярэсьці, Нясьвіжы, Пінску, Дубне, Луцку, Уладзімеру-Валынскім, Вялейцы, Вільні і Сьвянцянах (—**ніводнай беларускай!**).

150.000 зл.—на будову тэхнічнае школы ў Вільні (**польскай**).

Віленскі Унівэрсытэт, што **ня прыймае** вучняў з беларускіх сярэдніх школаў, мае атрымаць 250.000—на капітальны рамонт.

А дзе-ж народная школа? П. Рымар, на жаль, ня выдзяліў асыгноўкі на пачаткавую школу на „Крэсах“, а падаў толькі агульную лічбу — **5 мільёнаў** на будаваньне школьных гмахаў **у-ва ўсей** Польшчы,—трохі лепш, як на „фортыфікацыю“ адных толькі „Крэсаў“ ..

6) Міністэрства Публічных Работ адрамантуе ў працягу 1925 году ў ваяводзтвах: Беластоцкім—7 гмахаў (?), Наваградзкім—21 гмах, Палескім — 5, Валынскім 14 і Віленскім—41. Што-ж гэта за таёмныя „гмахі“?—Ня ведама, але што не для беларускага селяніна, (паскольку гэта не вастрогі!) — дык гэта—ж пэўна!

На ўпарадкаваньне водных шляхаў на „Крэсах“ (бясспрэчна важны — **агульна карысны** выдатак!) асыгнавана ўсяго каля паўмільёна злотых (але ўсе-ж—грош!)

У нас яшчэ в. слаба разумеюць, якое вялізарнае значэньне, як **першы варунак усялякай арган'зацыі краю**, добрыя (ў-ва ўсе поры году) шляхі; дык і на гэтую нязьмерна важнейшую ад в. сумлiўнай (калі ня зусім стратэгічна безнадзейнай) „фортыфікацыі“ рэч мы зусім ня бачым у „бюджэце п. Рымара“ ніякіх асыгновак, калі ня лічыць нейкіх 30.000 зл. на будову мастоў — у Віленшчыне і 87.000 зл. у Валыншчыне.

Каля 16 мільён. злотых—найвялікшы і „wybitne kresowy“, як кажа п. Рымар, выдатак прадбачаны, як пазыкі на адбудову зьнішчаных вайной будынкаў.. Але гэта—толькі **пазыка**, дый распараджацца ёй будзе п. Староста,—дык зусім няведама, што з гэтай сумы атрымае запраўды згалеўшы, жывучы, як крот у зямлянцы, вярнуўшыся да краю хлебароб, а што — паны абшарнікі на рамонт іх палацаў—(як гэта было сцьвержана ў леташнім бюджэце)...

7) Міністэрства асадніцтва, — перапрашаю: „reform rolnych“! — з свайго бюджэту, амаль ня ў 50 мільён. злотых, мае выдаць на ваенных асаднікаў—3 міл. 400 тысяч. зл. з надзвычайнага крэдыту, і на асаднікаў наагул—на пазыкі (без аддачы!...) яшчэ 12 міл. 800 тысяч. злотых—**усяго на асаднікаў—16 мільёнаў і 200 тысяч. злотых**. Так сама—„pozycja wybitna kresowa“!.

На куплю зямлі — на парцэляцыю праз Зямельны Банк—мае быць выдана 15 мільёнаў — на ўсю Польшчу,— менш як на крэсавых асаднікаў!

Сколькі выпадзе на „Крэсы“ з тых 11 з паловай мільёнаў—на комасацыю (пераход з шнуроў на хутары) і сэрвітуты, з даных п. Рымара ня відаць.

8) Калі да ўсяго вышэй пералічанага дадаць некалькі мільёнаў, якія мае выдаць мін. чыгунак на адбудову майстроўняў, станцыяў і інш., дык вось і ўсё, што налічыў п. Рымар у бюджэтах — дадаткавым за 1924 г. і „прэлімінаваным“ на 1925 г., як „зробленае“ на карысьць нашых „усходніх ваяводзтваў“...

„Усё гэта, разам узятае,—ня шмат“,— канчае скрамней, як пачаў, п. Рымар,—„але ўсё-ж такі—ужо нешта значыць“. Дэпутат пацяшае нас тым, што „ў трэцім скарбовым уставе“ (?), які ўрад быццам абяцуе ўнясьці у Сойм у сакавіку 1925 г.(?) „ўрад прыдзе з праектам далейшых і вялікшых інвэстыцыяў для ўсходніх ваяводзтваў“...

Калі ў сакавіку ўнясе, дык тады і пабачым-

А цяпер можам разам з п. Рымарам сцьвярдзіць, што для „санацыі“ жыцьця **польскага** гранічнага стражніка, **польскага** жаўнера і паліцыянта, для пэўнага камфорту культурнага **польскага** чыноўніка, для **польскага** крэсавага асадніцтва, для падняцьця „прэсьціжу“ розных гмахаў **польскай** улады на Крэсах, для ваеннай фортыфікацыі; для ўмацаваньня **польскай** школы на „Крэсах“ і т. п.—для ўсей тэй „Польшчы на Крэсах“, якую толькі і бачыў, толькі і вітаў, заехаўшы да нас, п. прэзыдэнт Войцэховскі,—для ўмацаваньня „польскасьці“ на беларускіх і украінскіх „Крэсах“—**матэрыяльна** зроблена—„ня многа,—кажа п. Рымар,—але нешта ўсё-ж такі зроблена“...

А дзе-ж той „бюджэт п. Тугутта“? дзе-ж тыя лекі гэтага „доктара абодвух крэсаў“, якія павінны палітычна, эканамічна і маральна аздаравіць адносіны на „Крэсах“, вылячыць—бяз апэрацыі — іх ад „запаленьня“?

П. Рымар кажа, што гэтага „бюджэту п. Тугутта“ мы можа дачакаемся ў сакавіку...

---

Але трэба сьцьвярдзіць, што той бюджэт, што ўнесены цяпер—у лістападзе, вельмі характарыстычны для „польскага генія“ наагул, а для акцыі гэтага „генія“ на беларускіх „Крэсах“ асабліва. Гэты бюджэт **дае яшчэ больш тым, што ўжо маюць многа**, і **дзеля бюджэтнай раўнавагі адбірае амаль не апошняе ў тых, што і без таго** маюць адны толькі дзіры—у сваім жыцьці, у сваёй долі, у сваёй гаспадарцы..

Агулам кажучы, першыя на „Крэсах“ гэта паны, палякі; другія—сяляне, беларусы...

Ці-ж можа адбывацца бясспрэчна важная для ўсей справы маральная санацыя Крэсаў, калі Польская ўлада будзе катастрафічна павялічываць гэткім „зраўнаважаным“ бюджэам **розьніцу ў матар'яльном** дабрабыце, ня кажучы ўжо аб усім іншым, паміж гэтымі двума галоўнымі і ўжо „запалёна“ варожымі элемэнтамі „Крэсаў“?

Трэба кожнай разумнай уладзе разумець, што ствараць прыёмны і вясёлы камфорт для адзінак ці дзесяткаў на бядзе, жудзе і руіне тысячаў—не заўсёды бясьпечна.. Што, як сцьвярджае гісторыя — хаця-ж бы Францыі і Расеі, — істнуе нейкі „**крытычны парог**“, за які — калі пяройдзе гэтая розьніца між моцным і слабым, адзетым і голым, сытым і галодным, шанаваным і пагарджаным, гэтая ўсе узрастаючая розьніцца між **панам і хлопам**, тады сам сабой бяз ніякае агітацыі ці „апэрацыі“, пачынаецца... крызіс ці катастрофа...

Такога чыну „зраўнаважаныя“ на **карысьць маючага коштам нямаючага**—так сказаць „эвангельскія“ бюджэты маюць і назоў—„катастрафічных“!..

Дык вось на гэтае галоўнае пытаньне: ці можна запраўды вылячыць „запаленьне Крэсаў“ якраз гэтым „катастрафічным“ рэцэптам—няхай і адкажа нам наш новы „Крэсавы прэм'ер“ і лейбмэдык п. Тугутт...

**Д-р Пютуа**

---

**Пішыце ў газэту аб усім, што ў вас дзеецца: аб гмінных парадках, аб адносінах начальства, аб школах і навуцы, дый аб усякіх выпадках у жыцьці вашае ваколіцы. Пішыце коратка, але поўна і ясна, паказываючы акуратна: што, дзе, калі і кім зроблена прозьвішчы і адрасы пакрыўджаных і крыўдзіцеляў. Канешне падпісывайце і свае імя—толькі для ведама Рэдакцыі!**

---

# Дзіцячыя клюбы.

*Замест прадмовы.*

Цяпер, калі разьвернеш якую-небудзь газэту, дык толькі і навіна, што юбілеі.

Яно і праўда, калі зямелька мае сваю мінуўшчыну, дык яна мае і свае ўласныя юбілеі.

І мы, беларусы, маем свае юбілеі, бо і наша зямелька калісь бачыла лепшыя часы, хоць цяпер непрыяцелі адмаўляюць нам ня толькі залатога веку нашага разьвіцьця, але нават нашу мову перарабілі ў „гутарку“.

На фоне нашае мінуўшчыны глядзяць прозьвішчы слаўных сыноў Беларусі. Тут і Скарына, тут і Васіль Цяпінскі, тут і Ян Чачот і Кастусь Каліноўскі, нават сэрб Досіцей Обрацовіч, які ў свой час клапаціўся адчыніць на Беларусі славянскую друкарню, а пазьней на бацькаўшчыне напісаў кароценькі, але прыхільны для нас начырк “Беларусі“.

Але і ў сучасных варунках Беларусь ня менш мае сваіх дзеячоў і пісьменьнікаў. І калі ад нашае мінуўшчыны пахне працаю нашых дзядоў, дык прад намі ляжыць яшчэ таёмны і вабны шлях нашае будучыны. І чым мы больш кінем на гэты шлях сілаў, еднасьці і згоды, тым будзе лепш для нас-жа саміх ў першы чарод.

Цяпер, як-то кажуць, беларуса хлебам не кармі, а дай яму волю. Бо няма нічога лепшага ў цэлым сьвеце, як воля, калі сам сабе гаспадар.

І мы будзем мець волю, і мы будзем гаспадарамі!

Беларусы ідуць...

Бо і ў Парыжу, і ў Лёндане, і ў Рыме—скрозь ужо павялі гутарку пра беларускі рух, пра беларускую літэратуру, гісторыю, беларускую мову. Наша будучына з намі.

Але будучына наша, як і кожнае зямелькі, галоўным чынам крыецца ў вёсцы, у тых падлётках, гарбузіках, жэўжыках, пра якіх мы, здаецца, мала дбаем і якія топчуцца пад нагамі бяз жаднае патрэбы. Ня зусім памылюся, калі заўважу, што ад сучаснае вясковае моладзі шмат залежыць далейшае разьвіцьцё і ўзмацававаньне ідэяў нашага адраджэньня і волі. Сялянская моладзь—гэта і ёсьць тая сіла, апіраючыся на якую, мы дойдзем да пажаданых вынікаў. Толькі трэба гэтую моладзь у пару вывясьці на жыцьцёвы шлях, трэба **ўзгадаваць яе.**

Вось гэтыя радкі і ёсьць спроба знайсьці нешта карыснае і магчымае ў сучасных варунках для нашае беларускае моладзі.

## Адкрыцьце дзіцячых сельска-гаспадарчых клюбаў.

Неяк неспадзейна трапілася мне ў рукі невялічкая кніжка ў сэрбскай мове д ра Веліміра Стойковіча „дзіцячыя клюбы ў Амэрыцы“ (Boys' and girls Agricultural Clubs).

Клюбы гэтыя надта цікавыя і арыгінальныя. Мэта іх — падгатоўка вясковае моладзі дзеля будучыны, дзеля працы, каб разьвіць у кожным дзіцяці любоў і прыхільнасьць да ўсяго таго, з чым зьвязана жыцьцё на вёсцы. Кажучы прасьцей,—даць дзяржаве здаровае пакаленьне.

Усім чыста ведама, што амэрыканцы народ надта практычны. Яны добра падлічылі, што вясковая моладзь ня толькі самавіты фактар на вёсцы, але праз гэтую моладзь шмат лягчэй правясьці ў жыцьцё ўсялякія паступовыя і карысныя для самой дзяржавы ідэі: і, як вынікі гэтае развагі,—арганізацыя дзіцячых сельска-гаспадарскіх клюбаў.

Першы такі дзіцячы клюб у Амэрыцы адчынены ў 1898 г. ў штаце Нью-Іорк *).

Праз нейкі час у окрузе Макаўнін (штат Ілінаўс) адчыніўся другі сельска гаспадарскі клюб, які цяпер лічыцца найлепшым і бярэцца ўсімі за прыклад.

Дзякуючы прапагандзе, дзіцячыя клюбы ў Амэрыцы пачалі пладзіцца, як грыбы, а карысьць, якую прынясьлі першыя дзіцячыя клюбы, прымусіла амэрыканскую ўладу прыняць у 1914 г. сміс-Леваравы закон (Smith—lever's Agràcultural Fxtension Act 1914).

Гэтым законам створана магчымасьць і забясьпечана фінансава справа далейшага адкрыцьця дзіцячых сельска гаспадарскіх клюбаў.

Па афіцыяльным ведамасьцям амэрыканскае ўлады ў Вашынгтоне ў 1918 г. ў Амэрыцы было каля 2 мільёнаў дзяцей—сябраў дзіцячых клюбаў. Па тымжа ведамасьцям патрачана на гэтыя клюбы:

ў 1914/15—267.042 даляры.
„ 1915/16—263.598 „
„ 1916/17—372.097 „
„ 1917/18—418.760 „

Трэба заўважыць, што тутака не бярэцца ў падрахунак пэнсія клюбных лідэраў (club leader), якія маюць вялікае значэньне ў жыцьці дзіцячых клюбаў, гутарка аб якіх будзе далей.

Цікава заўважыць і тое, што ў сміс Леваравым законе ёсьць пункт, па якому фэдэрацыйная ўлада Злучаных Штатаў павінна кожны год павялічываць бюджэт на прапаганду і ўтрыманьне дзіцячых клюбаў на поў мільёна даляраў (500.000), пакуль гэта будзе патрэбна.

*) Злучаныя Штаты складаюцца з 13 паудзенных штатау (дзяржау) і 33 пауночна-заходніх.

## Варункі прыёму ў дзіцячыя клюбы.

Вось якія агульныя варункі прыняцьця дзяцей у амэрыканскія дзіцячыя сельска-гаспадарскія клюбы:

1) Сябрам клюбу можа быць кожны хлапец або дзяўчына ад 10 да 18 гадоў.

2) Дзіцячы клюб можна адчыніць, калі набярэцца ня менш 5—6 сяброў.

3) Кожны дзіцячы клюб павінен мець старшыню, віцэ старшыню, скарбніка і сэкратара.

4) Кожны сябра павінен акуратна пазнаёміцца з статутам клюбу.

5) Кожны сябра абавязкава павінен даведывацца на клюбныя паседжаньні, якія маюць адбывацца ня менш аднаго разу ў месяц.

6) Сябры клюбу павінны пісаць (у матчынай мове) рэфэраты (дзеля конкурсу паміж сабой) на тэмы аб тым, што імі зроблена, і аб сваіх уражаньнях у працягу месяца.

Апошні артыкул надта цікавы і ў сучасных варунках жыцьця Беларусі, бязумоўна, варты, каб яго адзначыць, глыбей над ім задумацца, ды выкарыстаць глыбей дзеля нашаг- адраджэньня і зьніштажэньня чужых уплываў.

## Гэрб клюбаў.

Дзеці—сябры дзіцячых клюбаў, апрача сяброўскага квіту, атрымліваюць яшчэ і клюбны гэрб.

Гэрб гэты прадстаўляе кветку з чатырма ляпёсткамі. На кожным такім ляпёстку напісана літара H. Гэта значыць: Head (галава), Heatr (сэрца), Health (здароўе) і Hands (рукі).

Адсюль мэта кожнага клюбу ў Амэрыкі — гэта разьвіцьцё ўсіх чатырох H.

**М. Запольскі.**

(Канец будзе).

